ГРАМАДСКІ ПРАВААБАРОНЦА
СЯРГЕЙ ГОЎША



ШУКАЕ АБАРОНЫ АД СУДОВАГА САМАВОЛЬСТВА Ў ВЯРХОЎНЫМ СУДЗЕ

СТАР. 2

веснік ПРАВАбарончы

№ 11 (19) 11.2013

ГРАМАДСКІ АКТЫВІСТ
ВІКТАР СЫРЫЦА

НАКІРАВАЎ СКАРГУ СТАРШЫНІ БРЭСЦКАГА АБЛАСНОГА СУДА

СТАР. 3



БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

ДЫСКРЫМІНАЦЫЯ

# ВАЛЯНЦІН СТЭФАНОВІЧ ЗВЯРНУЎСЯ Ў КАНСТЫТУЦЫЙНЫ СУД

Нагодай сталі выпадкі дыскрымінацыі грамадзянаў па моўнай прыкмеце – у краіне фактычна адсутнічае законатворчасць на беларускай мове. Гэта ўскладняе працэс абароны і адстойвання сваіх інтарэсаў для беларускамоўных грамадзянаў у судзе і іншых дзяржаўных органах.

Намеснік старшыні ПЦ "Вясна"Валянцін Стэфановіч звяртае ўвагу Канстытуцыйнага суда, што беларускімі праваабарончымі арганізацыямі ўсё часцей фіксуюцца выпадкі дыскрымінацыі грамадзянаў па моўнай прыкмеце. Закон Рэспублікі Беларусь "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" у новай рэдакцыі 13.07.1998 г. № 187-3 не ўтрымлівае гарантый роўнасці дзвюх дзяржаўных моваў і, па меркаванні Стэфановіча, супярэчыць арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.



"Мова судавытворчасці ў краіне паводле дзеючага заканадаўства ажыццяўляецца на беларускай і (альбо) рускай мовах, што на практыцы ў большасці выпадкаў прыводзіць да таго, што суды з удзелам прадстаўнікоў беларускамоўнай меншасці адбываюцца на рускай мове", - адзначае ў звароце праваабаронца.

Праваабаронцы неаднаразова фіксавалі выпадкі, калі суддзі адмаўляліся весці працэс па-беларуску. Варта прыгадаць адміністратыўны працэс над Генікам Лойкам, якога ў сакавіку 2013 года судзілі за несанкцыянаваны пікет у абарону беларускай мовы ля гімназіі №4 г.Мінска. Суддзя Фрунзенскага раёна Людміла Лапо не толькі адмовілася сама весці працэс па-беларуску, але і забараняла адказваць па-беларуску ўдзельнікам працэсу. Суддзя Мінскага гарадскога суда Аляксей Бычко, які разглядаў касацыйную скаргу, адмовіўся весці працэс па-беларуску, спасылаючыся на арт. 2.11 Працэсуальна-выканаўчага кодэксу аб адміністрацыйных правапарушэннях, які нібыта дазваляе вядзенне працэсу на рускай мове.

Стэфановіч звяртае таксама ўвагу, што на прававым партале pravo.by немагчыма знайсці нарматыўна-прававыя акты на дзяржаўнай беларускай мове, рэсурс змяшчае бягучую інфармацыю на рускай і англійскай мовах, а тэксты нарматыўна-прававых актаў і законапраектаў размяшчаюцца на ім выключна на рускай мове.

Дыскрымінацыя па моўнай прыкмеце супярэчыць не толькі нацыянальнаму, але і міжнароднаму заканадаўству. Так, згодна з арт. 26 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах усе людзі роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону закона. У гэтых адносінах усялякага рода дыскрымінацыя павінна быць забаронена законам і закон павінен гарантаваць усім асобам роўную і эфектыўную абарону супраць дыскрымінацыі па якой бы там ні было прыкмеце. Паводле вызначэння, якое даецца міжнароднымі нормамі права ў галіне абароны правоў чалавека, дыскрымінацыяй ахопліваюцца ўсялякія выключэнні, абмежаванні ці перавагі па пэўных прыкметах, у тым ліку і па моўнай прыкмеце.

Валянцін Стэфановіч звяртаецца ў Канстытуцыйны суд з просьбай прызнаць арт. 7 Закона Рэспублікі Беларусь "Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" не адпавядаючым арт. 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і прапанаваць Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь унесці змены ў гэты артыкул, заканадаўча замацаваўшы абавязак дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь выдаваць усе нарматыўна-прававыя акты (уключна з тэкстамі законапраектаў) на дзвюх дзяржаўных мовах – беларускай і рускай.

Зварот будзе накіраваны таксама ў Палату прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд, Савет Міністраў і прэзідэнту, якія паводле арт.116 Канстытуцыі маюць права накіроўваць прапановы ў Канстытуцыйны суд аб адпаведнасці законаў нормам Канстытуцыі.

spring96.org

## У Баранавічах пададзена заява на пікет да 65-х угодкаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека

Грамадскі актывіст Вячаслаў Болбат 20 лістапада падаў заяву на імя старшыні Баранавіцкага гарвыканкама аб правядзенні пікета, прысвечанага 65-м угодкам прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Правядзенне пікету запланавана 10 снежня ў старым парку горада, які рашэннем Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. вызначаны месцам масавых мерапрыемстваў.

Мэта пікету – прапаганда каштоўнасцяў, закладзеных ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, а таксама прынятым ў адпаведнасці з ёй Міжнародным пакце аб грамадзянскіх і палітычных правах.

Запланавана, што пікет пройдзе пад лозунгамі: "Свабода палітычным вязням", "Кантрактная сістэма – інструмент пакарання", "65 гадоў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека".

– Мы будзем гаварыць з людзьмі не толькі пра тое, што Беларусь з'яўляецца аднөй з краін-распрацоўшчыкаў Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, а гэта значыць — узяла на сябе абавязак строга выконваць міжнародныя стандарты ў галіне правоў чалавека. Удзельнікі пікету хочуць нагадаць нашым грамадзянам, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршаецца з каждым годам, – адзначыў Вячаслаў Болбат.

Глеб Лушынскі

## У Мілавідах не будзуць вяртаць памятную шыльду ў гонар паўстанцаў 1863 года

Мілавідскі сельскі выканаўчы камітэт (Баранавіцкі раён) не будзе вяртаць памятную шыльду ў гонар паўстанцаў 1863 года. Гэта стала вядома з ліста за подпісам в.а. старшыні Мілавідскага сельскага выканаўчага камітэта Давідовіч Н.В., які атрымаў грамадскі актывіст Віктар Сырыца. У адказе на калектыўны зварот грамадзян паведамляецца, што "Баранавіцкі раённы выканаўчы камітэт ні ў 1993 годзе, ні ў цяперашні час не прымаў рашэнне аб наданні Мілавідскай сярэдняй школе імя Аляксандра Лянкевіча."

– Гэта адкрытая хлусня, бо павесіць металічную шыльду на дзяржаўным будынку заўсёды патрэбен быў дазвол прадстаўнікоў улады. Многія мясцовыя чыноўнікі мне казалі, што на свае вочы бачылі не толькі рашэнне аб наданні Мілавідскай СШ імя Аляксандра Лянкевіча, але і аб тым, што яны асабіста прысутнічалі пры ўрачыстым адкрыцці гэтай шыльды ў 1993 годзе, – паведаміў Віктар Сырыца.

Ён адзначыў, што грамадскія актывісты сабралі 214 подпісаў грамадзян горада. Да подпісаў быў прыкладзены калектыўны зварот грамадзян на імя старшыні Мілавідскага сельскага выканаўчага камітэта з просьбаю вярнуць памятную шыльду ў гонар кіраўніка Мілавідскай бітвы 1863 года Аляксандра Лянкевіча на будынак сельскай школы.

Віктар Сырыца дадаў, што калі гэта не ўдасца зрабіць шляхам збору подпісаў, то тады грамадскія актывісты будуць дзейнічаць праз суд.

Вітусь Свабодскі

ФЕМІДА

# БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЦА СЯРГЕЙ ГОЎША ПАДАЎ СКАРГУ СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА СУДА

Праваабаронца Сяргей Гоўша падаў скаргу старшыні Вярхоўнага Суда Сукала В.А. на пастанову аб прыцягненні яго да адміністрацыйнай адказнасці суддзёй суда Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы Петрыва В.А. 21 жніўня 2012 года і пакараннні штрафам у 15 базавых велічыняў. Падставай для прыцягнення Сяргея Гоўшы да адміністрацыйнай адказнасці стала заява старшыні Баранавіцкай акруговай выбарчай камісіі Тацццяны Латышавай, у якой яна сцвярджала, што Сяргей Гоўша абразіў яе і сябраў камісіі нецэнзурнай лаянкай.



Сяргей Гоўша перад будынкам Баранавіцкага гарадскога суда

Не пагадзіўшыся з пастановаю суда першай інстанцыі, праваабаронца звярнуўся ў вышэйстаячыя судовыя органы. Але Брэсцкі абласны суд, а затым і Вярхоўны Суд пакінулі скаргу грамадскага актывіста без задавальнення.

У сваёй скарзе на імя старшыні ВС Сяргей Гоўша тлумачыць, што суды ўсіх узроўняў паставіліся да разгляду яго скаргі фармальна і неаб'ектыўна, што суддзі зусім не праверылі сабраныя па справе доказы, што пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні складзены з парушэннем патрабаванняў арт. 9.1 ПВКаАП. У скарзе праваабаронца сцвярджае, што ён ніякіх абразлівых нецэнзурных словаў пад час размовы з Латышавай Т.У. не выкарыстоўваў і гэта пацвярджаецца аўдыёзапісам гэтай размовы. Аднак суды ўпарта гэты запіс не толькі не прызнаюць ў якасці доказу па справе, але нават і не лічаць крыніцаю інфармацыі.

Сяргей Гоўша даводзіць старшыні ВС, што праведзены ім аўдыёзапіс з'яўляецца доказам. Але паколькі гэты дакумент поўнасцю абвяргае вінаватасць праваабаронцы ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, то суды проста ігнаруюць яго. Сяргей Гоўша ў абгрунтаванне праўдзівасці інфармацыі ў аўдыёзапісу ўказвае, што праводзілася фанаскапічная экспертыза, якая не выявіла нецэнзурнай лаянкі. Экспертыза пацвердзіла, што запіс зроблены на дыктафоне праваабаронцы, а таксама тое, што не маецца мантажа запісу. Экспертыза зроблена "Цэнтрам судовых экспертыз і крыміналістыкі Міністэрства Юстыцыі Рэспублікі Беларусь" і была прыкладзена да справы пры разглядзе ў Брэсцкім абласным судзе, але зноў жа, не прынята да ўвагі і нават не ўзгадваецца ў адказе старшыні Брэсцкага абласнога суда.

У адказе за падпісам намесніка Старшыні Вярхоўнага Суда ў сваю чаргу маецца толькчі чатыры невялікіх абзацы, кожны з якіх складаецца з некалькіх словаў, што яго скарга не падлягае задавальненню. У той жа час ні па адным з указанных ім фактаў незаконнасці вынесенай судовай пастановы няма ніякай ацэнкі з боку вышэйшага судовага органа краіны.

Сяргей Гоўша просіць старшыню ВС РБ адмяніць пастановы Брэсцкага абласнога суда ад 21 сакавіка 2013 года і суда Баранавіцкага раёна і г.Баранавічы ад 21 жнівеня 2012 года.

Правабараноца падкрэслівае, што ён шукае абароны ў судах, а яму суды даюць адказ на ўзроўні школьных ведаў.

spring96.org

ФЕМІДА

# СКАРГА ПА СПРАВЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ НАКІРАВАНА СТАРШЫНІ АБЛАСНОГА СУДА

Грамадскі актывіст Віктар Сырыца 23 лістапада падаў скаргу старшыні Брэсцкага абласнога суда на пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ад 31.07.2013 г. і пастанову суддзі Брэсцкага абласнога суда ад 29 жніўня 2013 г.па справе Мілавідскага фэсту. Нагадаем, што 31 ліпеня суддзя Кацярына Груда прызнала актывіста вінаватым у падрыхтоўцы і арганізацыі несанкцыянаванага мітынгу ў Мілавідах 2 чэрвеня (ч. 2 арт. 23.34 КаАП) і пастанавіла прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 20 базавых велічынь. Суддзя Брэсцкага абласнога суда Наталля Сурма пакінула пастанову суда першай інстанцыі без змянення. Каб дабіцца абъектыўнага разбіральніцтва, Віктар Сырыца звярнуўся да старшыні Брэсцкага абласнога суда.



У сваёй скарзе грамадскі актывіст адзначае, што лічыць вынесеныя пастановы незаконнымі па прычыне аднабокага і неаб'ектыўнага высвятлення акалічнасцяў справы. Віктар Сырыца даводзіць, што ніякага несанкцыянаванага масавага мерапрыемства не было, а што ён зрабіў — дык гэта арганізаваў паездку людзей на афіцыйнае свята, анансаванае дзяржаўнай газетай "Наш край".

У сваёй скарзе грамадскі актывіст даводзіць, што высвятленне акалічнасцяў адміністрацыйнага правапарушэння суддзямі была выканана не толькі аднабока і неаб'ектыўна, але і няпоўна, што, згодна арт. 12-14.1 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса РБ аб адміністратыўных правапарушэннях, з'яўляецца падставаю для адмены судовай пастановы. На думку Віктара Сырыцы, суд зусім не прыняў да ўвагі АКТ, складзены 02.06.2013г., які падпісалі 9 чалавек. Тое, што ў Мілавідах не было мітынгу, сведчыць і пісьмое даручэнне пракурора Баранавіцкаму РАУС, якое суд таксама праігнараваў.

Віктар Сырыца просіць старшыню Брэсцкага абласнога суда адмяніць пастанову суддзі суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы і пастанову суддзі Брэсцкага абласнога суда, а справу аб адміністратыўным правапарушэнні спыніць з-за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу адміністратыўнага правапарушэння.

spring96.org

ДЗЯДЫ

# ГРАМАДСКІЯ АКТЫВІСТЫ ЗЛАДЗІЛІ ТАЛАКУ ЛЯ КРЫЖА АХВЯРАМ РЭПРЭСІЙ 1939-1953 ГГ.

Традыцыйна баранавіцкая грамадскасць 2 лістапада 2013 года на Дзяды ладзіць талаку па добраўпарадкаванні тэрыторыі ў скверы каля Крыжа "Ахвярам гвалту 1939-1953 гг". Раней тут была турма "Крывое кола" дзе было забіта вельмі шмат людзей. У 1992 годзе на месцы былой турмы баранавіцкая грамадскасць ўсталявала Крыж памяці сталінскіх ахвяр.

Увечары 2 лістапада 2013 года пасля 17 гадзін грамадскія актывісты прыбралі тэрыторыю ад смецця, усклалі кветкі, запалілі свечкі. Затым нагадалі імёны, загінуўшых за свабоду і беларускасць, прачыталі малітву за ўсіх памёрлых і загінуўшых ад рэпрэсій людзей.

spring96.org

# Грамадскія актывісты Баранавічаў павіншавалі палітвязняў з Днём герояў



Грамадскія актывісты з Баранавічаў віншуюць палітвязняў з Днём Волі

Прадстаўнікі палітычных партый і недзяржаўных арганізацый павіншавалі беларускіх палітвязняў з Днём герояў. Мясцовыя актывісты даслалі каляровыя паштоўкі Мікалаю Статкевічу, Алесю Бяляцкаму, Мікалаю Аўтуховічу, Эдуарду Лобаву і астатнім палітычным зняволеным.

– Агульнавядома, што 27 лістапада – дзень Герояў. У гэты дзень мы шануем нашых патрыётаў, якія ратавалі гонар беларускага народа ў цяжкія лёсавызначальныя часы нашай гісторыі. Слуцкі збройны чын паўстаў, каб бараніць незалежнасць Беларусі ад бальшавіцкай навалы. Нашыя сучасныя героі таксама пакліканыя бараніць Беларусь. Сёння Мікалай Статкевіч, Алесь Бяляцкі, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў і іншыя знаходзяцца за кратамі, таму для нас яны – героі сучаснай Беларусі. Я моцна веру, што мы выратуем нашу мову і нашу краіну, – паведаміла грамадская актывістка Анжаліка Камбалава.

Глеб Лушынскі

## Актывіст павінен заплаціць на карысць МУС 175 тысяч рублёў

21 лістапада, у судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы адбыўся судовы працэс над актывістам прафсаюза РЭП Аляксандрам Вайцешыкам аб спагнанні страхавых выплат на карысць МУС у памеры 175 тыс. рублёў. Судовую справу Вайцешыка разглядала суддзя Вера Утлік. Зыск супраць актывіста на карысць МУС падаў Баранавіцкі міжраённы пракурор А.А. Більдзейка. Сутнасць зыска заключаецца ў тым, што паколькі Вайцешык раней судом быў прызнаны вінаватым ва ўчыненні цялесных пашкоджанняў у выглядзе 3-х удараў супрацоўніку міліцыі Баранавіцкага ГАУС А Пахамовічу, то ён абавязаны выплаціць "пацярпеламу" міліцыянеру страхоўку.

У судзе Аляксандр Вайцешык даказваў, што менавіта супрацоўнік міліцыі ўчыніў яму 22 цялесных пашкоджанні, што было зафіксавана судова-медыцынскай экспертызай 27 ліпеня 2011 года. Дадзены канфлікт паміж грамадскім актывістам і супрацоўнікам міліцыі, які быў у цывільным адзенні, адбыўся днём ва ўласнай кватэры Вайцешыка.

Не разбіраючыся па сутнасці справы, суддзя Вера Утлік падтрымала патрабаванні пракурора аб спагнанні з Аляксандра Вайцешыка страхавых выплат у памеры 175 тыс. рублёў на карысць МУС.

Грамадскі актывіст мае намер абскардзіць дадзенае рашэнне ў Брэсцкім абласным судзе.

Глеб Лушынскі

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## ПРАВААБАРОНЧЫ ЦЭНТР "ВЯСНА" ПАДТРЫМАЎ КІРАЎНІЦТВА ПА ВЫЗНАЧЭННІ ПАНЯЦЦЯ «ПАЛІТЫЧНЫ ВЯЗЕНЬ»




У канцы кастрычніка на ІІІ Беларускім праваабарончым форуме ў Вільні было прэзентавана Кіраўніцтва па вызначэнні паняцця «палітычны вязень».

Дадзенае кіраўніцтва распрацавана працоўнай групай праваабаронцаў з Азербайджану, Беларусі, Грузіі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны ў складзе: Эміль Адельханаў, Інтыгам Алієў, Ганна Бараноўская, Людміла Вацкова, Ганна Герасімава, Валянцін Гефтэр, Алег Гулак, Сяргей Давідзіс, Эльдар Зейналаў, Яўген Захараў, Іна Кулей, Аляксандра Матвійчук, Таццяна Равяка, Вольга Саламатава, Валянцін Стэфановіч, Алена Танкачова, Анагіеў Хаджыбейлі, Уладзімір Яворскі.

Яго мэтай з'яўляецца уніфікацыя падыходаў у дзейнасці праваабарончых арганізацый па вызначэнні і выкарыстанні паняцця «палітычны вязень».

Паняцце «палітычны вязень» усё часцей сустракаецца ў міжнародных дакументах, СМІ, справаздачах нацыянальных і міжнародных арганізацый. Аднак часта ў гэтае паняцце ўключаецца розны сэнс. Таму на практыцы бывае вельмі складана вызначыць, ці з'яўляецца канкрэтны чалавек палітычным зняволеным. З іншага боку, сітуацыя нявызначанасці гэтага паняцця дазваляе дзяржавам пазбягаць адказнасці ў выпадках палітычна матываванага пераследу, паколькі дае ім магчымасць заяўляць аб беспадстаўнасці такіх абвінавачванняў. Распрацоўка агульных крытэрыяў і іх сумеснае прымяненне павінны дапамагчы ў вырашэнні гэтай праблемы.

Пры распрацоўцы дадзенага кіраўніцтва выкарыстоўваўся вопыт Савета Еўропы, міжнароднай праваабарончай арганізацыі «Міжнародная амністыя» і нацыянальных праваабарончых арганізацый розных краін.

Па стане на 12 лістапада да гэтага дакумента ўжо далучыліся украінскія, расійскія і беларускія праваабарончыя арганізацыі: Харкаўская праваабарончая група, Украінскі Хельсінскі саюз па правах чалавека, а таксама яшчэ 11 праваабарончых арганізацый, Расійская праваабарончая арганізацыя "Мемарыял", Праваабарончы цэнтр «Вясна» , Беларускі дом правоў чалавека імя Звоскава, Цэнтр прававой трансфармацыі.

У цяперашні час аб'яўленая працэдура далучэння да гэтага дакумента іншых беларускіх арганізацый.

spring96.org

МАЮ ПРАВА

## ПІКЕТ ЗАБАРОНЕНЫ ЗА ЛОЗУНГІ

Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет пад лозунгамі "Іх трэба спыніць", "Дзеянні ўлады – пад грамадскі кантроль". Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Дз. Касцюкевіча, які атрымаў актывіст гарадскога прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгор Грык. У лісце паведамляецца, бо лозунг заяўленага масавага мерапрыемства парушае патрабаванні арт. 10 Закона РБ "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь".

– У Баранавічах парушаюцца дэкрэты, распараджэнні Прэзідэнта, законы, таму, я хацеў выказаць пратэст супраць невыканання "слугамі народа" дзяржаўных заканадаўчых актаў. Але мне чарговы раз не дазволілі правесці пікет. Увогуленашы чыноўнікі лічаць, што над імі не




павінна быць аніякага грамадскага кантролю, – паведаміў Рыгор Грык.

Пікет з удзелам 3-х чалавек быў запланаваны 16 лістапада ў старым парку культуры і адпачынку па вул.Камсамольская (пляцоўка з боку вул.Царука).

У 2012-2013 гг. у Баранавічах забаранілі ўсім незалежным арганізацыям і грамадскім актывістам правядзенне масавых мерапрыемстваў нават у дазволеным месцы.

Вітусь Свабодскіі

"ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК" Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

весніk PRAVABAРОНЧЫ